



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 красавіка 2015 года №16 **(1042)**




**Валожынец прыдумаў гісторыю, як у яго страляў участковы**
старонка 4



**Як у садку №6 ў Ашмянах эканомяць энергію**
старонка 5



**7000 кіроўцаў Маладзечна аб'ядналіся, каб дапамагаць адзін аднаму**
старонка 20

### Адсвяткуйце 20 гадоў "РГ" разам з намі

*Паважаныя чытачы!*

*Мы маем гонар і задавальненне запрасіць вас на **святкаванне 20-годдзя "Рэгіянальнай газеты"**.*

*Вы былі з намі ўсе гэтыя 20 гадоў, таму лагічна будзе, калі вы падорыце нам яшчэ адзін вечар.*

*Мы разам узгадаем тэмы, якія хвалявалі, фотаздымкі, якія захаплялі, людзей, якія натхнялі.*

***Чакаем вас на вечарыне ў выставачнай зале імя Сілівановіча ў Вілейцы 25 красавіка а 16 гадзіне.***

*Уваход свабодны.*

**Калектыў "РГ".**









# Няма крамы без парушэнняў

## За тры месяцы на Вілейшчыне забаранілі рэалізоўваць амаль 300 кілаграмаў прадуктаў

ВІЛЕЙКА

**Ва ўсіх правераных аб'ектах гандлю ў першым квартале санітарна-эпідэміялагічная служба знайшла парушэнні.**



Фота politikus.ru.

**Каб не набыць няякасныя прадукты, не забудзьцеся праверыць тэрмін іх прыдатнасці.**

Такія вынікі прынеслі праверкі выканання санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства аб'ектамі гандлю і грамадскага харчавання, у тым ліку прыдарожнага сэрвісу.

Доктар-гігіеніст Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Ліхачэўская** прывяла асноўныя парушэнні:

– гандлююць прадуктамі з прайшоўшым тэрмінам прыдатнасці,

– парушаюць правілы таварнага суседства і тэмпературны рэжым захоўвання,

– не ўказваюць дату і час, калі адкрылі спажывецкую ўпакоўку,

– прадукцыя падазронай якасці,

– не ствараюць умоў для асабістай гігіены персаналу;

– ставяць харчовую прадукцыю ў тары на падлозе;

– памяшканні не прыбіраюць па меры неабходнасці;

– перамяшчаюць прадукты з тары пастаўшчыка ў іншую тару, якую не мыюць і не дэзінфіцыруюць.

### Штрафы на мільёны

Па матэрыялах праверак прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці 126 службовых асоб на суму больш за 137 мільёнаў рублёў і чатыры юрыдычныя асобы на 36 мільёнаў рублёў.

За невыкананне прадпісанняў на восем кіраўнікоў склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Справы накіраваныя ў суд. Вынеслі дзесяць прадпісанняў аб прыпыненні дзейнасці, сем прадпісанняў аб скарачэнні асартыментнага пераліку, прыпынілі чатыры аб'екты гандлю.

– За апошнія гады прадукцыі з прайшоўшым тэрмінам прыдатнасці на прылаўках крамаў стала менш. Аднак падобныя выпадкі здараюцца, нягледзячы на тое, што сумы штрафаў значна павялічыліся, – кажа Алена Ліхачэўская.

Агулам забаранілі рэалізоўваць амаль 300 кілаграмаў прадукцыі.

### Пакупнікі ўстаюць на абарону гандляроў-парушальнікаў

Здзіўляюць прадстаўнікоў санітарнай службы выпадкі з пакупнікамі, якія здараюцца пры праверцы выязнога гандлю. Пункт прывозіць вялікі асартымент тавараў: сярод іх ёсць і замарожаныя прадукты, і мяса-кілбасы, сыры. Усё гэта прадаецца без неабходнага халадзільнага абсталявання, нават калі ўжо цёпла.

– Прыходзіш, кажаш людзям: "Вы ж купляеце недабраякасную прадукцыю", пачынаеш выяўляць парушэнні, – прыгадвае Алена Ліхачэўская. – Некаторыя пакупнікі пачынаюць пярэчыць: "Вы нам перашкаджаеце купляць. Тут добрыя тавары, нас усё задавальняе". А потым пачынаюць скардзіцца, што кепскую прадукцыю купілі.

А на крамы скаргаў ад пакупнікоў у апошні час стала менш. Лічыць спецыяліст, што ў многім з-за таго, што стала больш крамаў самаабслугоўвання, дзе можна ўважліва разгледзець тавар.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТРАНСПАРТ

# Каля 30 чалавек чакалі маршрутку ў непагадзь

МАЛАДЗЕЧНА

**13 красавіка людзі пад дажджом чакалі маршрутку Уша-Чысць. Яна павінна была прыйсці ў 19:40. Аднак яе так і не было.**



Фота tverweek.

Маршруткі Уша-Чысць не было тры рэйсы. Некаторыя 45 хвілін пад дажджом і ветрам дабіраліся дадому.

Некаторыя з Ушы да Краснага, да Чысці пайшлі пешшу, некаторыя дабіраліся аўтаспынам.

– У добрае надвор’е можна і пешшу дайсці да Чысці. Не такая доўгая дарога – усяго 45 хвілін. Але ж не ў такую непагадзь, калі дождж лье як з вядра і вецер свішча! – узрушаецца **Яўген Драздоў**. – Тым больш, шмат жанчын чакалі маршрутку. Адна дзяўчына ад холаду ажно калацілася – душа разрывалася ад такога відовішча. Усе павымакалі.

### Чаму аўтапарк не папярэдзіў пасажыраў

Па словах Яўгена, каля дзесяці чалавек ішлі пешшу.

– Няўжо аўтапарк ніяк не мог папярэдзіць пасажыраў пра тое, што маршруткі не будзе. Хаця б аб’яву павесілі! – узрушаецца мужчына. – Тым больш, што ўсе ў гэты час ехалі з працы.

На аўтавакзале нам патлумачылі, што аўтобус Уша-Чысць зламаўся.

– Ён не хадзіў тры рэйсы: у 19:13, 19:40 і 19:55, – расказвае дыспетчар аўтавакзала **Тацццяна Харэўка**. – У 20:30 выйшаў на маршрут. Людзі маглі пачакаць аўтобус на чыгуначнай станцыі Уша.

Дыспетчар кажа, калі аўтобусы ламаюцца, на аўтавакзале робяць усё магчымае, каб выправіць сітуацыю.

**Галіна СІНІЦА.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Чарапашкі і хамячкі змагаліся ў конкурсах

ВІЛЕЙКА

**У цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 11 красавіка прайшла раённая выстава-конкурс “Звярок на далоньцы”.**

У ёй удзельнічалі 12 вучняў з Вілейкі. Экспанавалася 15 дэкаратыўных дробных дамашніх жывёл: сірыйскія і джунгарскія хамячкі, сухапутныя і водныя чарапахі, чылійскія вавёрачкі (дэгу) і марскія свінкі.

Праграма ўключала конкурсы як для ўладальнікаў, так і для гадаванцаў. Напрыклад, для сухапутных чарапах наладзілі “Чарапашы марафон”, а для джунгарскіх хамячкоў – “Бег у коле”.

Пераможцамі конкурсаў сярод уладальнікаў сталі **Піліп Сак** і **Уладзіслаў Іванілаў**. Другое месца заняла **Ілона Жалабковіч**, трэцяе – у **Марыі Арлоўскай** і **Яўгена Занкавіча**.

Удзельнікаў узнагародзілі дыпломамі і прызамі. Самы смачны прыз – корм “Хрум-хрум” – дастаўся гадаванцам. Пра ўсё гэта расказала метадыст раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Наталля Сухан**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пётр Цыгалка

Нечакана, раніцай 16 красавіка, памёр Пётр Міхайлавіч Цыгалка. Сябар “Рэгіянальнай газеты”, ініцыятар шматлікіх нашых публікацый і тэм. Чалавек, які дапамагаў усім, хто быў навокал. Пётр Міхайлавіч нарадзіўся 66 гадоў назад на хутары паблізу Мільчы пад Даўгінавам.

Просты чалавек, які ўсё жыццё правёў за шафёрскай баранкай, але цікавіўся гісторыяй свайго краю і людзьмі. Яго не пакідалі абыякавым чыйсьці клопат, праблема суседа або знаёмага. Ён не разумеў тых, хто забываўся на сваё мінулае, свае карані.

Зусім нядаўна журналісты “Рэгіянальнай газеты” разам з ім аб’ездзілі навакольныя вёскі Даўгінава. Тады мы згадвалі ў газеце Галакост.

У планах была серыя публікацый пра нашых землякоў у Сібіры, продкі якіх выехалі больш за сто гадоў таму ў пошуках лепшай долі або проста кавалка хлеба. Кур’яновічы, Цыгалкі, Судніковічы, Бурсевічы, Аксючыцы, Пачарнеі, Асаёнкі, Станькі, Паўтаракі – прозвішчы, якія сустракаюцца ля Мільчы і ў сібірскіх вёсках Паўлаўка, Калінаўка, Андрэеўка, Аляксандраўка, Мугун Цюменскай вобласці… Ён знайшоў сібіракоў, якія настойліва і ўсхвалявана прасілі Пятра Цыгалку весці далейшыя пошукі ў архівах, музеях, старых падшыўках. Бо заўсёды адчувалі сябе беларусамі, а праз смугу часу сувязь з Радзімай пачынала губляцца. І новай ніточкай, за якую яны маглі ўхапіцца, была перапіска і штодзённыя кантакты ў інтэрнэце праз Пятра Міхайлавіча.



На вялікі жаль, гэтую работу так, як яе рабіў Пётр Цыгалка, ніхто ўжо не зробіць.

Мы будзем заўжды ўдзячныя Пятру Міхайлавічу за яго душэўнасць, клопат пра кожнага, высокамаральныя чалавечыя якасці і настойлівасць у дасягненні пастаўленых ім высакародных мэт. Нам яго будзе не хапаць.

Прыносім самыя шчырыя спачуванні жонцы Зінаідзе, дочкам і іх сем’ям.

**Калектыў “Рэгіянальнай газеты”.**



Фота забяспечана Уладзімірам РАМАНОЎСКІМ.

Дырэктар ТДА “Мара-плюс” Уладзімір Раманоўскі.

ДА 20-ГОДДЗЯ “РГ”

# Уладзімір Раманоўскі пра “Рэгіянальную газету”

**Блізіцца 20-годдзе “Рэгіянальнай газеты”. Чытачы і партнёры працягваюць віншаваць выданне з 20-гадовым юбілеем.**

Выказаўся і сталы чытач газеты дырэктар ТДА “Мара-плюс” **Уладзімір Раманоўскі**.

– Я пазнаёміўся з “Рэгіянальнай газетай” пасля таго, як яна з’явілася. Адразу палюбіў за цікавыя і праўдзівыя матэрыялы. Калі б не падабалася, то не купляў бы.

Чытаю ад першай старонкі да апошняй, не прапускаю ніводнай. Асаблівая падабаецца рубрыка “Куфэрак”. У ёй з нетыповага боку перад вачыма чытача праходзяць людзі, падзеі. Зачытваюся ўспамінамі пра вайну. Чытаеш такія артыкулы і можаш адчуць боль, радасць людзей, іх перажыванні. А гэта не можа не кранаць!

Мяне не можа не ўзрушаць той факт, што некаторыя выданні капіруюць “Рэгіянальную газету”. Купляеш, бывае, іншую газету і бачыш, што падобны артыкул быў у мінулым яе нумары.

Газета – гэта жывы арганізм, таму, як і любому чалавеку, хачу пажадаць здароўя, працвітання, дабрабыту, імкнення да новых здзяйсненняў і новых цікавых ідэй.

**Галіна СІНІЦА.**

СЛУЖБЫ

### Просяць адгукнуцца таго, хто знайшоў сумачку

МАЛАДЗЕЧНА

6 красавіка ў цягніку эканом-класа Маладзечна-Мінск згубілі сумачку.

У ёй знаходзілася электронная кніга, банкаўскія карткі, пашпарт на імя **Неўскай В.В.**

Просяць таго, хто знайшоў сумачку, патэлефанаваць па наступных нумарах: **(8029) 5648002, (8029) 1406439.**

### Не паліце смецце і траву

ВІЛЕЙКА

Пасля праведзенай праверкі 8 красавіка ўзбудзілі крымінальную справу па факце знішчэння або пашкоджання маёмасці па неасцярожнасці. Датычная яна пажару ў вёсцы Вардамічы Даўгінаўскага сельсавета. “РГ” паведамляла, што здарэнне адбылося 18 сакавіка.

Мужчына спальваў смецце на ўчастку. Быў моцны вецер. У выніку агонь знішчыў два леццішчы і дзве гаспадарчыя пабудовы, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

### Перамаглі паэты са Свіршчыны

МЯДЗЕЛ

4 красавіка ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры “Зубраня” адбыўся пяты рэспубліканскі конкурс паэтычнай творчасці.

У лік лепшых трапілі дзве прадстаўніцы рэгіёна, вучаніцы Свірскай сярэдняй школы Мядзельскага раёна. **Анастасія Лобач** перамагла ў намінацыі “Грамадзянская лірыка”. **Дар’я Андрэева** заняла трэцяе месца ў намінацыі “Філасофская лірыка”, паведамілі ў цэнтры.

**Аддзел інфармацыі.**




фота Ігара МАРОЗА.

Першую паркоўку для ровараў, зробленую па выніках конкурсу, устанавілі ля цэнтральнай раённай бальніцы па эскізах Антона Смірнова.

● КОНКУРСЫ

# За лепшую паркоўку узнагародзяць роварам

ВІЛЕЙКА

**Такую ўзнагароду атрымае пераможца конкурсу "Так – роварнаму руху". Ад канца студзеня праводзіла яго грамадскае аб'яднанне па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна"ЗОВіК".**

Жыхарам горада прапанавалі стварыць эскіз парковак для ровараў і прадумаць варыянты іх размяшчэння.

Адгукнуліся не толькі вілейчане, але і жыхары іншых гарадоў, расказала старшыня праўлення "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**. Усяго паступіла 11 прац.

Пры падвядзенні вынікаў улічвалі не толькі арыгінальнасць паркоўкі, але і як яна прывязаная да мясцовасці, ці ўпісваецца ў аблічча горада.

Пераможцам конкурсу стаў **Дзмітры Гарланаў** – малады спецыяліст, які працуе ў Вілейцы. Ён правёў сур'ёзную работу, дапрацоўваў свае эскізы да канкрэтнага месца. За перамогу ўзнагародзяць **Дзмітрыя** роварам.

Яшчэ вылучылі дзве працы – сталічнага студэнта **Антона Смірнова** і калектыўную працу "Live to ride" студэнтак архітэктурнага факультэта БНТУ **Веранікі Карчміт і Анастасіі Усцілкі**. Іх таксама адзначаць.

## Паркоўкі пачалі ўстанаўліваць

"РГ" пісала, што першую конкурсную паркоўку ўстанавілі на мінулым тыдні каля хірургічнага аддзялення цэнтральнай раённай бальніцы. Яна зробленая па эскізе Антона Смірнова.

Паркоўка па эскізе Дзмітрыя Гарланава яшчэ робіцца. Яе размесцяць на цэнтральнай плошчы, непадалёку ад фантана. Разлічаная на 10 ровараў.

Яшчэ па адной паркоўцы ўстановяць каля залы выстаў імя Сілівановіча і ў гарадскім парку. Іх таксама зробяць па эскізах Дзмітрыя.

Абяцаюць, што з'явяцца паркоўкі ў бліжэйшы час. Вырабляюць іх на вілейскім прадпрыемстве "Дэкармет". Прычым, майстры дапамагаюць паркоўкі дапрацоўваць.

**Першую веладарожку плануюць на тратуары па вуліцы Талстога да перасячэння з вуліцай Чапаева.**

Праца студэнтак БНТУ, хоць і цікавая, пакуль не можа быць ўвасобленая: не вельмі падыходзіць да канкрэтных месцаў. Мажліва, у будучым знойдзе сваё месца і яна.

## Завершаць праект велапрабегам

Яшчэ арганізатары конкурсу чакалі прапаноў, дзе ў Вілейцы можна уладкаваць веладарожкі.

– Гараджане актыўна тэлефанавалі, дасылалі свае ідэі, – кажа суразмоўца. – Паступіла больш за 100 прапаноў. На жаль, не ўсе з іх можна ажыццявіць.

Пакуль участак для руху раварыстаў з'явіцца на тратуары па вуліцы Талстога да перасячэння з вуліцай Чапаева. Працы па яго ўладкаванні будуць весці сумесна з ДАІ і Вілейскім РАУС. Потым будуць прапрацоўваць іншыя варыянты.

– Радуе, што конкурс знайшоў актыўны водгук у людзей. Хацелася, каб у нашым горадзе на роварах ездзіла больш людзей, – падагульняе Таццяна Цітуленка.

Завершаць праект роварным прабегам. Плануюць яго ў маі. Аб'едуць паркоўкі, паглядзяць месцы, дзе людзі прапаноўвалі зрабіць роварныя дарожкі. Абмяркуюць, што яшчэ можна зрабіць для развіцця роварнага руху ў Вілейцы.

Фінансава праект падтрымала міжнародная арганізацыя "Pact: Building Local Promise".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Якой даўжыні Пляснянка

ВІЛЕЙКА

**У артыкуле пра ачыстку і добраўпарадкаванне ракі Пляснянка ўказвалі, што на той момант ачысцілі каля пяці кіламетраў рэчышча.**

У каментары да матэрыялу наведнік сайта напісаў: "Вельмі патрэбная і карысная справа. Незразумела толькі, дзе знайшлі гэтыя пяць кіламетраў? Найбольшая працягласць Пляснянкі ў межах горада тры кіламетры. А ачышчана прыкладна палова рэчышча".

Адказаць папрасілі каардынатара мясцовага экалагічнага плана дзеянняў Вілейскага раёна Сяргея Ганчара. Патлумачыў ён, што агульная працягласць Пляснянкі 10,8 кіламетра. Гэта даныя з праектнай дакументацыі, якая была распрацаваная навукоўцамі ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Тады горад заказваў вялікі праект. Ён быў напалову рэалізаваны, пакуль не надышоў 1991 год і ўсе працы прыпыніліся. Па гэтых жа даных працягласць Пляснянкі ў гарадской рысе – 4,6 кіламетра. З 80-х гадоў гарадская рыса яшчэ павялічылася.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЛІЧБА НУМАРА

**1,4** мільярда ровараў у свеце

У нашым рэгіёне **3** веладарожкі:
- у Нацыянальным парку "Нарачанскі"
- у заказніку "Налібоцкая пушча"
- у Ашмянах



Паводле dal.by і belarus.by.

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 9.04 | 16.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 490,00 | **14 420,00** |
| Еўра | 15 840,00 | **15 220,00** |
| Злоты | 3 869,31 | **3 801,54** |
| Расійскі рубель | 262,00 | **278,00** |
| Грыўня | 616,07 | **635,24** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 15.04** | | |
| Еўра | 15600/15850 | **15100/15250** |
| Долар ЗША | 14320/14520 | **14200/14440** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.04 | 15.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 24500 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 85000 | **75000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39500 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 100000 | **90000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **13000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Морква, 1 кг | 5900 | **8000** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6500** |
| Радыска (пучок) | 12500 | **29900** |
| Лімоны, 1 кг | 22500 | **26900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19900 | **21500** |
| Мандарыны, 1 кг | 22900 | **24900** |
| Ківі, 1 кг | 27500 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 35900 | **34900** |
| Агуркі, 1 кг | 34900 | **26900** |
| Перац, 1 кг | 42900 | **60000** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **29900** |
| Бананы, 1 кг | 23900 | **29900** |
| Яблыкі, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **26900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 60000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ЗДАРЭННІ

# Мужчына прыдумаў гісторыю пра тое, як у яго страляў участковы

ВАЛОЖЫН

**Больш за 70 афіцыйных скаргаў атрымала валожынская міліцыя за год ад 56-гадовага мужчыны. Пры гэтым яны не пацвярджаліся.**

Аднойчы мужчына патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што будзе заканчваць жыццё самагубствам. Калі прыехалі міліцыянеры, мужчына пачаў расказваць, што дактары не хочуць яго лячыць, што яму ўсё надакучыла, таму ён хоча памерці. Калі міліцыянеры патэлефанавалі ў "хуткую", аказалася, што мужчына не звяртаўся па дапамогу.

Неяк мужчына сцвярджаў, што ў яго пакралі курэй. Прыехала міліцыя – усе куры былі на месцы. Тэлефанаваў, што яму дасылаюць рэкламныя смс-кі. "А я ж рэкламу не заказваў!" – сцвярджаў мужчына.

## Міліцыянер страляў у мужчыну, але не папаў

У студзені ён звярнуўся ў міліцыю са скаргай, што з ім сварыцца суседка. Участковы зрэагаваў на гэта, прыехаў высвятляць, што здарылася.

І па словах мужчыны, міліцыянер дастаў табельны пісталет і стрэліў у яго. Аднак не папаў – мужчына паспеў адскочыць. Пра гэты выпадак ён сігналізаваў у міліцыю.

– Участковага адхілілі ад работы, забралі табельную зброю, – расказвае старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**. – Пачалі праводзіць экспертызу. Аднак факт не пацвердзіўся.

У адносінах да 56-гадовага мужчыны ўзбудзілі крымінальную справу за заведама лжывы данос. Яму прызначылі судова-псіхіятрычную экспертызу.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота vsr.mil.by.

Мужчына як Джэймс Бонд нібыта адскочыў ад кулі міліцыянера.

# Кіраўніка Мінаблаўтатранса абвінавачваюць у карупцыйных злачынствах

**Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці расследуе крымінальную справу ў дачыненні да генеральнага дырэктара ААТ "Мінаблаўтатранс".**

– Устанавілі, што кіраўнік, дзейнічаючы з карыслівай зацікаўленасці, выкарыстоўваў матэрыяльныя рэсурсы ўзначаленага ім прадпрыемства. Даваў незаконныя ўказанні падначаленым аб выкананні гаспадарчых работ на ўласным участку з прыцягненнем аўтатранспарту і работнікаў арганізацыі. Акрамя таго, выявілі факты крадзяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў, якія належаць прадпрыемству, – расказала "РГ" афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Супрацьпраўныя дзеянні пацягнулі прычыненне шкоды на суму каля 80 мільёнаў рублёў. Накладзены арышт на маёмасць фігуранта на суму больш за 500 000 долараў ЗША, у тым ліку грашовыя сродкі, аб'екты нерухомасці, аўтамабілі і іншую маёмасць.

Абвінавачаны заключаны пад варту. Правяраюць інфармацыю аб іншых фактах яго супрацьпраўнай дзейнасці.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ

## Так хацелася выпіць, што прадалі машыну суседа за 50 долараў

ВАЛОЖЫН

Двое вяскоўцаў з вёскі Пугачы, аднаму з іх 46 гадоў, другому – 23, вырашылі выпіць.

Калі алкаголь скончыўся, а жаданне выпіць яшчэ не, знаёмыя вырашылі прадаць аўтамабіль "Масквіч", што стаяў у двары суседа.

23-гадовы ўдзельнік здзелкі патэлефанаваў сваім знаёмым, што ёсць машына на продаж.

Знаёмыя прыехалі, машыну паглядзелі.

46-гадовы мужчына распавёў пакупнікам, што гэта яго машына, якая дасталася яму ў спадчыну. Але з-за таго, што на машыне доўгі час ніхто не ездзіў, згубіліся ключы і дакументы на яе.

Пакупнікі паверылі, машыну з другога разу завялі, заплацілі за яе 50 долараў і з'ехалі.

На наступны дзень у міліцыю патэлефанавалі жыхары вёскі, што жылі па суседстве, і сказалі, што з двара знікла машына, якая належыць чалавеку, што жыве ў Маладзечанскім раёне, а машына проста стаіць на захоўванні.

Супраць двух прадпрымальных мужчын узбуджаная крымінальная справа па артыкуле крадзеж.

– Машына і матэрыяльная шкода вернутыя ўладальніку, – распавяла "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая.**

## Невядомы скраў цялят, а да адказнасці прыцягнулі вартаўніка

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 20 лютага ў вёсцы Бомбалы Сакаўшчынскага сельсавета.

Ноччу з фермы скралі двое цялят. Агульная сума шкоды склала 3 мільёны 440 тысяч рублёў.

Адметна, што цялят скралі ў час, калі вартаўнік адсутнічаў на месцы. Працоўны дзень у яго пачынаецца а 12 гадзіне ночы, а вартаўнік прыйшоў на працу каля дзвюх гадзін ночы.

– Па словах кіраўніцтва фермы, вартаўніка пасля гэтага выпадку звольнілі і абавязалі выплаціць сельгаспрадпрыемству шкоду, бо вартаўнік "асоба матэрыяльна адказная", – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Вячаслаў Белановіч.**

Асоба ж таго, хто скраў цялят, пакуль невядомая. Ідзе следства.

**Наталля ТУР.**



КРЫМІНАЛ

## Віляйчанін на крадзеж пайшоў з тачкай

ВІЛЕЙКА

**У ноч на 5 красавіка 26-гадовы віляйчанін сарваў навясны замок і пранік у хлеў у двары дома ў Вілейцы. Гаспадара якраз не было дома.**

Скраў мужчына 1200 кілаграмаў ячменю. Для перавозкі здабычы падрыхтаваўся загадзя – узяў з сабой тачку.

За некалькі разоў перавёз 40 мяшкоў у двор да знаёмага непадалёку. Паспеў скрадзены ячмень прадаць, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў.** Аднак радаваўся здабычы нядоўга: віляйчаніна затрымалі. Быў ён раней судзімы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Падабраў ключ і скраў шэсць электрарухавікоў

ВІЛЕЙКА

У ноч на 29 сакавіка ў вёсцы Балашы невядомы падабраў ключ і пранік у збожжасклад мясцовага таварыства. Потым ўсярэдзіне выламаў дзверы ў кладоўку. Адтуль выкраў шэсць электрарухавікоў і кабель.

Прычыніў злодзей шкоду амаль на восем мільёнаў рублёў, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта Яўген Мягкоў.

Крымінальную справу за крадзеж узбудзілі 8 красавіка.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## На Вялікдзень бяспраўнік за рулём выехаў на сустрэчку і трапіў у аварыю

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў нядзелю днём каля вёскі Дзікшняны.

38-гадовы кіроўца "Рэно-Шафран" пры павароце налева не саступіў дарогу і сутыкнуўся з "Хундаем-Акцэнт", які рушыў па сустрэчнай.

Кіроўца "Рэно" і яго 35-гадовы пасажыр, а таксама 48-гадовая пасажырка "Хундая" шпіталізаваныя. Кіроўца не меў правоў.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## У Маладзечне сутыкнуўся аўтобус з "Жыгулямі"

МАЛАДЗЕЧНА

12 красавіка каля шасці гадзін вечара на перакрыжаванні Талстога і Партызанскай адбылася аварыя.

Кіроўца аўтобуса "Маз" ехаў з другараднай на галоўную, не саступіў дарогу "Жыгулям".

Каб пазбегнуць сутыкнення, кіроўца "Жыгулёў" вымушаны быў затармазіць і змяніць кірунак руху.

Пра здарэнне паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Галіна СІНІЦА.**

## 16-гадовым прапануюць навучацца кіраванню матацыкла

МАЛАДЗЕЧНА

22 красавіка ў дзве гадзіны дня 16-гадовыя юнакі і дзяўчаты, якія не маюць пасведчання аб кіраванні матацыклам, змогуць зарэгістравацца на навучанне.

Калі маладыя людзі паспяхова здадуць экзамены па ПДД і практычным ваджэнні матацыкла, ім дадуць пасведчанне кіроўцы.

Рэгістрацыя пройдзе на аўтадроме ДТСААФ па *Віленскай, 64.*

Тэлефоны для даведак: **(80176) 734800, (80176)735603, (80176) 745345, (80176) 745347.**

**Паводле інфармацыі аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

ЭКАЛОГІЯ

# Як у садку эканомяць энергію

АШМЯНЫ

**Што трэба зрабіць, каб будынак дапамагаў берагчы не толькі цяпло і святло, але і грошы? Гэта ведаюць нават пяцігодкі з ясляў-садка №6 у Ашмянах!**

Пра гэта хлопчыкі і дзяўчынкі распавялі на ранішніку "Берагоша і яго сябры", які адбыўся ў чацвер, 9 красавіка.

Дзеткі расказалі казку на энергазберагальную тэму, чыталі вершы, спявалі прыпеўкі пра тое, як эканоміць энергію, танцавалі. Бацькі выхаванцаў падрыхтаваліся не менш адказна і распавядалі, як эканомяць у сем'ях яны, як іх дзеці захапіліся ідэяй энергазберажэння.

Так у гульнях і забавах дзеці і дарослыя паказалі, як праз садок іх сем'і прынялі і імкнуцца падтрымліваць гэту ідэю.

## Каб эканоміць, трэба заплаціць

Яслі-садок №6 аказаліся адзінай у рэгіёне установай адукацыі Беларусі сярод чатырох, якая перамагла ў конкурсе і стала ўдзельніцай праекта "Энергаэфектыўнасць у школах". У межах праекта ўдзельнікаў не толькі вучаць, як берагчы энергію. Праект, які фінансуе Еўрапейскі саюз, прадугледжвае рамонт будынка з устаноўкай розных эфектыўных энергазберагальных элементаў (на ілюстрацыі). Бюджэт праекта – два мільёны еўра.

Агульная сума выдаткаў па ашмянскіх яслях папярэдне складае каля 400 тысяч долараў. Па ўмовах праекта, 40% выдаткаў павінна пакрыць мясцовая ўлада.

На першых этапах праекта арганізатары вучылі педагогаў, як ім трэба вучыць энергазберажэнню. Зараз у яслях-садку рэгулярна праводзяць тэматычныя заняткі, распавядаюць пра электрычнасць, правялі экскурсію ў Ашмянскіх электрасетках.

**Для энергаспажывання Беларусі імпартуецца каля 80% выкапнёвых відаў паліва, пераважна з Расіі.**

Цяпер інстытут "Барысаўпраект" распрацоўвае праектна-каштарысную дакументацыю. Пасля абвесцяць тэндар на выбар арганізацыі, якая выканае будаўніча-мантажныя работы. Як будзе ісці рамонт, яшчэ вырашаюць: ці на нейкі час зачыніць садок, каб выканаць усё адначасова, ці працаваць па частках пры дзецях.

Як адзначае кіраўнік праекта **Сяргей Нікіцін**, тэрмін акупнасці праекта – 10 год. За гэты час за кошт скарачэння спажывання паліўна-энергетычных рэсурсаў затраты вернуцца.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Галоўнымі героямі ранішніку былі Берагоша, Цяплоша і Электроша ў выкананні Ягора Кандратовіча, Паўла Антоніка і Арцёма Аўсюкевіча (справа налева).

– Але неабходна памятаць, што, каб адчуць эфектыўнасць, трэба праводзіць комплексныя мерапрыемствы. Звычайныя батарэі грэюць не толькі пакой, але і сцяну, таму частка цеплаэнергіі ідзе проста на вуліцу. Не цяжка паставіць спецыяльныя цеплаізаляцыйныя матэрыялы, каб цяпло ішло толькі ў пакой. Але калі вы не ўсталюеце пры гэтым цепларэгулятар на батарэю, вы толькі павялічыце тэмпературу у пакоі, а спажываць менш не станеце.

Пасля энергазберагальнага рамонту за цеплаэнергію давядзецца плаціць менш амаль на 70%, за электрычнасць – на 25-30%.

## Сын сочыць, ці эканомлю я

У ашмянкі **Аліны Клімашэўскай** двое дзяцей ходзяць у яслі-садок №6:

– Бывае, я штосьці на кухні раблю, сын залятае, сочыць, каб дарма святло не гарэла. У такім узросце дзеткі вельмі ахвотна вучацца эканоміць і вучаць гэтаму нас.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Наталля ТУР.**
**Больш фота на сайце rh.by**

### 5 крокаў энергазберагальнага рамонту

*Мерапрыемствы, якія запланаваныя ў яслях-садку №6 у Ашмянах*

1. *Устанавіць сонечныя калектары для нагрэву вады*
2. *Уцяпліць дах і сцены*
3. *Замяніць вокны на шклопакеты*
4. *Замяніць лямпачкі на энергазберагальныя*
5. *Устанавіць утылізатары цеплыні для падагрэву прыточнага паветра*



Ілюстрацыя Зоі ХРУЦКАЙ.

ЗАХАПЛЕННІ

# Сям'я, дзе ўсе калекцыянеры

## Ільянцы збіраюць чатыры калекцыі на траіх і мараць стварыць музей

ВІЛЕЙКА

**Што аб'ядноўвае манеты Вялікага Княства Літоўскага, імбрычкі і мадэлі ваеннай тэхнікі? Усё гэта можна пабачыць у кватэры Буркевічаў з Ілы.**



Фота забяспечана Людмілай БУРКЕВІЧ.

Сям'я Буркевічаў ля калекцыі імбрычкаў.

У гэтай сям'і – усе калекцыянеры: мама і два сыны. Кожны збірае сваё, але ўсе дапамагаюць адзін аднаму папаўняць калекцыі.

### Імбрычкі са сваёй энергетыкай

Людміла Буркевіч збірае імбрычкі. Чаму менавіта іх?

– Напэўна, дзіцячыя ўспаміны паўплывалі. Бабуля збірала нас, 13 унукаў, даставала самавар, паіла чаем з варэннем...

Вось і свой першы экспанат Людміла ад бабулі прывезла. Ён выпушчаны ў 1955 годзе:

– Бабулін імбрычак мне асабліва дарагі, ён шмат чаго перажыў. У яго свая энергетыка.

Калекцыянуе жанчына год восем. У калекцыі ўжо каля 300 імбрычкаў і збаночкаў для вяршкоў. Усе экспанаты ўжо не змяшчаюцца дома.

– Не скажу, што фанатычна іх скупляю: раз на месяц адзін ці два набываю. Ды і знаёмыя ведаюць, што імбрычкі збіраю. Прыносяць, дораць.

Ёсць у калекцыі імбрычкі з Германіі, Балгарыі, Кітая, Італіі, Польшчы і іншых краін. Шмат экзэмпляраў савецкіх фабрык.

Адразу клеймы на імбрычках здаваліся Людміле нечым загадкавым. Цяпер жа пра фабрыкі ды пра гісторыю чаю і чайных традыцый можа шмат расказаць.

У калекцыі імбрычкі розных памераў, розных формаў – нават у выглядзе джыгіта. Кожны з іх па-свойму дарагі для ўладальніцы. Але найдаражэйшыя для яе тыя, якія дораць дзеці.

Яны на кожнае свята імкнуцца набыць. На 8 Сакавіка падарылі імбрычак у выглядзе доміка.

### "Пагляджу на імбрычкі – з'яўляецца натхненне"

Прафесія ў Людмілы ад творчасці далёкая: яна бухгалтар у прыватнай фірме.

– Можа, ад таго, што маеш справу з сухімі лічбамі, і хочацца нечага творчага, – разважае. – Маё захапленне дапамагае мне ў жыцці. Пагляджу на імбрычкі – з'яўляецца натхненне, хочацца нешта ствараць, зрушваць горы.

Складанымі чайнымі цырымоніямі, накшталт кітайскай, у сям'і не захапляюцца. Заварваюць чай проста. У чорны чай любяць дадаваць мяту, ліпавы цвет, чабор – як некалі бабуля рабіла. Смак цудоўны! Але, прызнаецца Людміла, часцей усё ж каву п'е – рытм жыцця цяпер такі.

### Па жыцці – з інтарэсам

Звычка калекцыянаваць ад мамы перадалася дзецям:

– Хочацца хлопцаў далучыць да нечага карыснага, – кажа яна. – Калекцыянаванне дапамагае ім развівацца. У іх інтарэс з'яўляецца ў жыцці, яны больш чытаюць, шукаюць інфармацыю пра сваё захапленне.

Малодшы **Уладзімір** збірае значкі і медалі. Пачалося ўсё з дзедавых узнагарод. А цяпер у калекцыі больш за 350 экзэмпляраў. Яшчэ цікавяць яго паменшаныя копіі самалётаў і танкаў – звыш за 40 мадэляў сабраў.

Іх пяцікласнік выстаўляе ў школьным музеі. Шмат чытае пра ваенную тэхніку, глядзіць адпаведныя перадачы. Ужо столькі ведае пра танкі ды самалёты!

– Былі на "Лініі Сталіна". Ён здалёку называе, які гэта танк, тэхнічныя характарыстыкі пералічвае. Падыходжу бліжэй, чытаю – так і ёсць, – узгадвае мама. – На кожным перапынку ён у музеі.

Старэйшага **Ягора** цікавяць манеты. Сабраў іх больш за 300.

– Адразу пачынаў без разбору манеты розных краін збіраць, – кажа ён. – Цяпер больш цікавяць манеты Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Захапленне дапамагае Ягору веды па гісторыі пашырыць. Пра кожную манету хочацца ж больш дазнацца. У сакавіку дзевяцікласнік удзельнічаў у выставе ў Вілейскім краязнаўчым музеі: у межах праекта "Тыдзень калекцыянера" дэманстраваў свае манеты.

Дзеці самі стараюцца на свае захапленні зарабіць – улетку збіраюць ягады і грыбы.

### Каб засталіся сямейныя традыцыі

Яшчэ Людміла і яе сыны цікавяцца гісторыяй сваёй сям'і: радавод складаюць.

– Кожны з нас стварае свет вакол сябе сам. Так і я раблю. Вельмі хочацца, каб у сыноў засталіся цікавыя ўспаміны аб дзяцінстве, сямейныя традыцыі. Хочацца закласці ў іх тое, каб яны не проста існавалі, а жылі мэтанакіравана, знайшлі сваё месца ў жыцці, – па-філасофску кажа Людміла.

А з усіх калекцый, можа, калі і невялічкі музей з'явіцца – гаспадыня пра гэта марыць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФЭСТ ЭКСКУРСАВОДАЎ

# Якія экскурсіі пройдуць у нашым рэгіёне ў гэтыя выхадныя

**Фэст экскурсаводаў пройдзе 18-19 красавіка ў розных гарадах Беларусі.**

На сёння ў нашым рэгіёне пацверджаныя экскурсіі ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне.

1. **Лідзія Крыловіч,** "Любі і ведай свой горад" (вул. Прытыцкага – Цэнтральная плошча – Палац культуры – парк Перамогі). 18 красавіка ў 11:00 збор каля гадзінніка насупраць кінатэатра "Радзіма".
2. **Павел Рафеенка, Валеры Бурэнь,** "Шталаг-342" – станказавод. 18 красавіка ў 13:00 збор каля "Шталага-342".
3. **Уладзімір Садоўскі,** архітэктурная спадчына Другой Рэчы Паспалітай у Маладзечне. 18 красавіка ў 14:00 збор каля Мінскага абласнога драматычнага тэатра (вул. Чкалава, д.7).
4. **Іван Мікалаеў,** гісторыя і сучаснасць чыгункі ў Маладзечне. 19 красавіка ў 15:00 збор на пляцоўцы побач з універсамам "Чыгуначны".
5. **Васіль Грынь,** аўтамабільная экскурсія "Рэха Першай сусветнай". 18 красавіка, час і месца будзе паведамляцца пры рэгістрацыі. Пісаць на e-mail: info @greenteam.by.

**Аддзел інфармацыі.**

СУСТРЭЧЫ

# У Вілейцы Уладзімір Слабодчыкаў прэзентуе землякам кнігу

ВІЛЕЙКА

У зале выстаў імя Сілівановіча 17 красавіка адбудзецца прэзентацыя кнігі "Уладзімір Слабодчыкаў. Скульптура". Выйшла яна летась.

– Уладзімір Слабодчыкаў – вядомы беларускі скульптар, наш зямляк. Нарадзіўся ён у вёсцы Даўгінава, – расказала навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Кніга, якую прэзентуе свайм землякам Уладзімір Слабодчыкаў, раскрывае пра жыццёвы і творчы шлях, а таксама знаёміць з скульптурнай спадчынай майстра.

Пачнецца прэзентацыя а 15 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".**
Уладзімір Слабодчыкаў узначальвае кафедру скульптуры Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў. Прыняў удзел амаль у 150 рэспубліканскіх і міжнародных выставах. Яго скульптуры захоўваюцца ў музеях і галерэях Беларусі, Расіі, Швейцарыі, Італіі, ЗША, Кітаі ды іншых краінах свету.

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# У Вілейцы праходзіць конкурс літаратурных твораў

ВІЛЕЙКА

Конкурс на лепшы літаратурны твор "Не пра вайну пішу – пра чалавека" прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі.

Да 30 красавіка для ўдзелу ў конкурсе неабходна падаць заяўку. Яе можна даслаць у раённую цэнтральную бібліятэку імя Ганны Новік па Савецкай, 25 альбо на электронную пошту vilcdb@tut.by.

Удзельнікі павінны ўказаць прозвішча, імя, імя па бацьку, месца вучобы альбо работы, тэлефон, адрас і даслаць свой літаратурны твор.

Конкурс праходзіць у трох намінацыях: "Паэзія", "Проза", "Публіцыстыка". Адбор будзе праходзіць па трох узроставых катэгорыях: ад 12 да 17 гадоў, ад 18 да 31 года і ад 32 гадоў і старэй.

– У журы плануем запрасіць вілейскіх творцаў **Мікалая Кутаса** і **Уладзіміра Цануніна**, начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама **Сяргея Паўлоўскага**, – расказала намеснік дырэктара раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Галіна Аўласовіч**.

Вынікі конкурсу падвядуць 6 мая падчас святочнага мерапрыемства "Віват вясне, самой Перамозе!".

Лаўрэат зможа выступіць на святочных пляцоўках 9 мая. Пераможцы атрымаюць званні лаўрэатаў, ім уручаць дыпломы і прызы.

**Галіна СІНІЦА.**

• **ВАРОТЫ, АГАРОДЖЫ, КАЗЫРКІ, ПОРУЧНІ (КОВАНЫЯ, ЗВАРНЫЯ). ІП АЛЕСКІЎ А.В. УНП 691889597. Т. (8-029) 5015072.***

• Вароты, агароджы, навесы, казыркі. Зварныя, кованыя. З прафнасцілу. Наяўны і безнаяўны разлік. Дастаўка, мантаж. ІП Горынаў С.В. УНП 691886651. Т. (8-033) 3917208, (8-029) 9857268.*

• **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ І АБЛІЦОЎКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• Выконваю ўсе віды будаўнічых і аддзелачных работ: падлогі, сцены, столі, вокны, дзверы. ІП Зінкевіч С.Е. УНП 691362918 Т. (8-029) 6336528.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Выпрабляем і прадаём пенапласт 15-20-25 шчыльнасці. ІП Панічаў А.І. УНП 591802484. Т. (8-029) 9345433, (8-033) 6582077, (8-01592) 61135 пасля 18.00.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаус, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваназнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Еўрасцяжка. ІП Зіневіч Е.П. УНП 591702887. Тел. МТС (8-029) 2335084, Велком (8-029) 3823187.*

• **ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ГРМ, ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691179713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• **МАНТАЖ САЙДЫНГА** (унутраны і знешні), **УСТАНОЎКА ДЗВЯРЭЙ, УСЕ ВІДЫ ДАХАВЫХ** (кровельных) **РАБОТ.** ІП Дурко А.Н. УНП 691889410. Т. (8-044) 5282880, (8-033) 6606763.*

• **МАСТАЦКАЯ КОЎКА.** Казыркі,навесы, агароджы, лесвіцы, поручні, прадметы інтэр'ера. ЧТУП "ДіФеррум" УНП 691514144. Т. (8-044) 4754424.*

• Нацяжныя столі любой складанасці і канфігурацыі. Гарантыя 15 гадоў. Гібкая сістэма скідак. ІП Мамчыц А.Н. УНП 591808084. Т. (8-029) 5818342, (8-029) 9736473.

• Новы спецыялізаваны аўтасэрвіс "АЎТАЭЛЕКТРЫКА" – рамонт электрыкі любой складанасці ў Смаргоні, праезд Я. Коласа, 2. ІП Жойдзь А.А. УНП 590947387. Т. (8-029) 6333873.

• Падача вады ў дом ад калодзежа, свідравіны. Устаноўка, падключэнне, ТА вадяной станцыі, гідрафлоры, глыбіннай помпы. ІП Жаўняровіч С.І. УНП 691881805 Т. Велком (8-029) 6634349, МТС (8-029) 5768106.*

• Паслугі электрыка ад "А" да "Я". ІП Драгун А.А. УНП 691884197. Т. (8-029) 7706263. (8-029) 9710597.*

• **ПАШЫЎ АЎТАМАБІЛЬНЫХ СЯДЗЕННЯЎ І ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці з розных матэрыялаў за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. (8-029) 6932184.*

• Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ. ПА ГОРАДУ.** ІП Зеленко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347.*



• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шаповал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, крокенная (стропільная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА, БАРДЗЮР ТРАТУАРНЫ.** ІП Кірікэ В.А УНП 691889515 Т. (8-029) 7018649, (8-029) 6814882.*

• Усе віды будаўнічых работ. Наяўны і безнаяўны разлік. ЧБУП "ЮлМірБуд", УНП 591804221. Т. (8-029) 2827362.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Кананові́ч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Велком.*

• Шынамантажа паслугі, раскатка дыскаў, зварка аргонам, рамонт падвескі. ІП Арол Д.Ф. УНП 691884036. Т. (8-033) 3836130, (8-044) 7841878.*

• Якасная аддзелка. Шпалеры, шпаклёўка, афарбоўка і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Ванна чыгунная новая,170смх70 см. Т. (8-029) 8724725.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Акучнік 3-корпусны.Т. (8-033) 3865672.

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Плуг 3-корпусны, заводскі. Т. (8-029) 6887462.

• Трактар самаробны, рухавік Д-37, гідраўліка, добры стан, 45 000 000 руб, магчымы торг. Прычэп + двухкорпусны плуг, 7 500 000 руб. Т. МТС (8-029) 5709927 Дзмітры.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына «Самсунг», паўгода б/у; 2-спальны ложак «Нью-Ёрк» з артапедычным матрацам, амаль новы. Т. (8-029) 1440428.*

• Халадзільнік у Вілейцы, 300 000 руб. Т. МТС (8-033) 3506906.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Ложкі 1,5 – 2 шт., шафы – 2 шт. Т. (8-0176) 765202, (8-029) 5681972.

• Ложкі1,5 спал. – 2 шт., дзіцячы ровар, новыя, батарэі чыгунныя – 2 шт. Па 2 рабры. Т. (8-029) 748175.

• Стол і табурэткі для кухні. Т. (8-029) 5547252.*

• Тахта 1х1.9, б/у, выдатны стан. Т. (8-029) 6458473.

• Шафа 4-дзверная з антрэсоллю, стол пісьмовы 2-тумбавы, усё б/у. Т. (8-029) 5551613.

**Музінструмент**

• **МАГАЗІН МУЗЫЧНЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ** прапануе: гітары, скрыпкі, флейты, камбаўзмацняльнікі, сінтэзатары, чахлы і інш. аксесуары. г. Маладзечна, вул. Віленская,12 (будынак атэлье «Бярозка»). ІП Строк УНП 691887699. Т. МТС (8-029) 5064026.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Жарэбчыка 1 год 3 мес. Т. (8-0176) 723258, (8-029) 2622686.

• **ІНДЫЧАНЯТЫ БРОЙЛЕРНЫЯ БІГ-6 РП. ІП Тамковіч Д.С. УНП 291355019. Т.(8-033) 6923899.***

• Парасяты в'етнамскія. Т. МТС 5644195.

• Парасяты в'етнамскія. Т. МТС 5644195, (8-0176) 732565.*

• Парасяты (свінкі), парода – белая буйная, узрост – 6 тыдняў. Т. (8-033) 632 31 37.

• Шчаняты цвергшнаўцэра, элітны радавод, прышчэпленыя, 2 месяцы. Т. (8-029) 1052146, (8-029) 7733449, 761648.*

• Ярачкі і баранчыкі. Узрост 4 месяцы, мясная парода тэксель. Т. (8-029) 6633885.*

**Іншае**

• Асабістыя рэчы для дзяўчынкі ад 6 да 11 гадоў, фірменныя, трохі б/у, нядорага. Маладзечна. Т. (8-0176) 747055, (8-029) 3633626.

• Вокны ПВХ 1,50х1,20 (2 шт.), 0,9х1,3 (7 шт.). Вокны драўляныя (шклопакеты) 0,86х0,56 (3 шт.), 1,46х0,56 (2 шт.), простыя 1,23х1,45 (9 шт.). Дзверы ПВХ (узмоцненыя, глухія, 2-створкавыя) 2,00х1,25 (2 шт.). Шклаблокі – 47 шт. Блокхаўс – 6,0х0,13 (14 шт.). Т. Велком (8-029) 1920432.*

• Вокны, 6 штук, у добрым стане, зашклёныя, двайныя, р-р 145х131. Т. (8-029) 1033779.*

• Гаражныя вароты 2/35х2/35 з брамкай і замком. Т. (8-01771) 51692, (8-029) 2631280.*

• Дзверы пластыкавыя балконныя б/у 0,7х2230 – 2 шт.; устаноўку піўную на 2 краны з кегамі; ванну б/у, метал, Італія – 2 шт. Т. (8-029) 6278076.

• Дровы колатые. Т. Велком (8-029) 9303630.

• Дывановая польская дарожка 1,5х5 м, 6 мес. б/у, у вельмі добрым стане, у пясочна-карычневых тонах, 450 000 руб. Маладзечна. Т. (8-0176) 747055, (8-029) 3633626.

• Зруб двухпавярховы + веранда. Т. (8-029) 7737594.

• Зруб лазні 5х5. Вілейка. (8-033) 6634420.

• Каляска дзіцячая "Nemo" (Польшча), 2х1, карычневая, новая, ва ўпакоўцы. Цана 4 950 000 руб. Маладзечна. Т. Велком (8-029) 1280318, МТС (8-029) 5770318.

• Каляска дзіцячая, універсальная, б/у, шэра-жоўтая, шэзлонг-качалка, хадуны, добры стан, Маладзечна. Т. (8-029) 7609292.

• Ліст металічны, 10 шт., Маладзечна. Т. (8-029) 5028269.*

• Печ-буржуйка. Т. Велком (8-044) 4707197.

• Пчаліныя домікі, б/у, нядорага, Т. Велком (8-029) 9095103.

• Сем'і пчол, вуллі; батарэі чыгунны новыя; ровар дамскі новы; вокны драўляныя новыя 140х140 см, 5 шт. Т. (8-0176) 763243.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Шыфер б/у. Забяру сам. Т. (8-029) 7674127, (8-044) 7676327.

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• КУН для МТЗ-80. Т. (8-029) 2725536.

**Бытавую тэхніку**

• Тэлевізары няспраўныя плазменныя і LCD. Т. (8-029) 6434740.*

**Жывёлу**

• **КАНЯ, буйную рагатую жывёлу** і інш. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581 Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*



### ЗГУБЛЕНА

• Ключы ад Опеля, у звязцы з іншымі. Таго, хто знайшоў іх, прашу вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-029) 9030081.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Па рамонце старых дахаў і мантажу новых, таксама іншыя будаўнічыя работы. Т. (8-044) 5569207.*

• Па ўсіх відах аддзелачных работ. Фасады, дахі, сайдынг, фундамент. Т. (8-033) 3843933, (8-044) 4733871.*

• Па будаўніцтве і рамонце дамоў, памяшканняў. Нядорага. Т. (8-029) 3517145.

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Велком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

• Печніка. Т. (8-025) 6035930, (8-033) 6845325.*

• Сайдынг, вагонка, блок-хаўс. Т. (8-029) 7627933.

• Дахаўшчык (кровельщік). Металачарапіца, андулін, мяккі дах. Т. (8-029) 8769560.

• Досвед:фундамент. Т. (8-029) 9527172.

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Вазьму ўрокі карыстання камп'ютарам або запішуся на курсы. Т. (8-029) 5019550.*

• Вілейскае райспажыўтаварыства запрашае на працу інжынера-тэхнолага грамадскага харчавання. За даведкамі звяртацца па адрасе: г. Вілейка, вул. Савецкая,50. УНП 600014948. Т. (8-01771) 54348.

• **ПРАДПРЫЕМСТВУ ПАТРАБУЕЦЦА ПРАДАВЕЦ АЎТАЗАПЧАСТАК. ДОСВЕД ПРАЦЫ АБАВЯЗКОВЫ. ПУП "ВЫБАР-СЭРВІС" УНП 190794934. Т. (8-029) 5717667.**

ВЫСТАВЫ

# Калекцыю запалкавых карабкоў і этыкетак пабачаць у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Праект “Тыдзень калекцыянера” працягнецца ад 14 да 23 красавіка. У зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея пакажуць новую калекцыю “Філуменія”.**

На ёй прадставяць запалкавыя карабкі і этыкеткі. Наведнікі пазнаёмяцца з гісторыяй запалак.

## З гісторыі філуменіі

Калекцыянаванне запалкавых карабкоў і этыкетак – займальны занятак, распаўсюджаны на ўсім свеце. Сёння ён з'яўляецца дастаткова рэдкім хобі. Філуменія узнікла практычна адразу са з'яўленнем у продажы запалкавых карабкоў. Першыя запалкавыя этыкеткі, якія знаходзяцца у некаторых калекцыях, датуюцца 1810-1815 гадамі.

**Тэрмін “філуменія” паходзіць ад грэцкага “phileo” – люблю і лацінскага “lumen” – агонь ці святло.**

Шырокі размах збіральніцтва запалкавых этыкетак набыло ў 1826-1827 гадах у сувязі з масавым выпускам запалак. Што датычыцца Расійскай імперыі, то ў ёй захапленне калекцыянаваннем запалкавых этыкетак зарадзілася яшчэ да пачатку выпуску айчынных запалак. Этыкеткі пападалі ў краіну разам з рускімі падарожнікамі і першапачаткова лічыліся рэдкімі сувенірамі. Паступова, да канца Першай сусветнай вайны, з'явіліся ўладальнікі вялікіх па тых часах збораў падобных этыкетак. Але затым цікавасць да гэтага віду захаплення згасла, бо яго пачалі лічыць “буржуазным захапленнем”.



Фота pixelbrush.ru

Нядаўна калекцыянаванне запалак зноў стала папулярным.

Аднак пасля 30-х гадоў 20 стагоддзя філуменія зноў увайшла ў моду. Прычым атрымала вялікае распаўсюджанне і ўвайшла ў лік шасці афіцыйна дазволеных відаў калекцыянавання. На 60-80-гады прыйшоўся сапраўдны росквіт філуменіі, калі вядомая балабанаўская запалкавая фабрыка стала выпускаць спецыяльныя наборы для філуменістаў па сто звычайных этыкетак і камплекты сувенірных этыкетак. Неўзабаве падобныя выпускі наладзілі прыбалтыйскія фабрыкі.

У 90-я гады захапленне філуменіяй пайшло на спад. І толькі праз дзесяць гадоў пачаўся новы віток развіцця гэтага віду калекцыянавання, абумоўлены росквітам інтэрнэту, які зрабіў даступным збіральніцтва і абмен паміж калекцыянерамі на адлегласці.

**Надзея АЎДЗЕЙ,**
**навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

# Як перажыла вайну дзяўчына з Валожына

## З успамінаў сястры Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №№12, 13, 14*

ВАЛОЖЫН

**Пра тое, якім было жыццё ў час акупацыі для жанчын, як ратавалі адзін аднаго і якімі страхамі і клопатамі жылі ў час вайны. Пра жыццё ў час Другой сусветнай вайны распавядае сястра жаўнера арміі Андэрса Мікалая Махнача Валянціна Слабодчыкава, у дзявоцтве Махнач. Успаміны ў рэдакцыю перадала Яўгенія Чаплінская з мястэчка Літва.**



Фота photos-maps.com.

Мінск, цяперашняя плошча Незалежнасці. У час фашысцкай акупацыі, 1943 год.

### Як жанчыны майстравалі адзенне

Увосень 1943 года мне прысніўся сон. Як быццам выйшла басанож на наш завулак, накіроўваючыся да галоўнай вуліцы. Завулак быў засыпаны бітым шклом, і падэшвы ног пачалі крывавіць. Але я ўпарта ішла далей, спускаючыся ў нізіну. І раптам ззаду па завулку пабег ручаёк чыстай вады, які змыў і мае сляды, і кроў, і залячыў раны. На доле завулка вада неяк прапала, і я выйшла на галоўную вуліцу са здаровымі нагамі і вясёлай.

Не вельмі памятаю восень 1943 года. Абодва школьныя будынкі забрала нямецкая камендатура, таму гандлёвую школу размясцілі ў былым гарсавеце. Гэта быў двухпавярховы гмах насупраць увахода ў вайсковы гарадок.

Дзяўчаты займаліся асобна ад хлопцаў, у невялікім пакоі на першым паверсе. Хлопцы вучыліся на другім паверсе, у актавай зале. Яна была даволі вялікая, з многімі вокнамі, таму зімой халаднаватая.

Тады ў нас жыла стрыечная сястра мамы Настасся з Бабровічаў. Яна была краўчыхай. Пасля ўрокаў я ёй дапамагала. У асноўным тады перашывалі старую вопратку, калі гэта было з крамнага. Але шылі і з саматканага палатна. Налаўчыліся ткаць і на спадніцы, і на блузкі. Вышывалі іх. З ваўняных нітак рабілі пруткамі швэдры, а з ільняных – летнія карункавыя блузкі. На галовы рабілі шапачкі з белай трусінай поўсці. Вельмі шмат тады трымалі трусоў з доўгай белай поўсцю. І ў нас было некалькі. Да белай ніткі дадавалі каляровую і атрымоўвалася адна шапачка з чырвоным адценнем, другая – з зялёным, а трэцяя – з сінім.

У Валожыне да сябровак хадзіла не так часта. Збіраліся часцей у сясцёр Жырковіч на Крывой вуліцы. Ігралі на мандалінах, танцавалі, спявалі. Бо ў горадзе не было дзе павесяліцца. Вяселлі, калі і рабілі, то вельмі сціплыя, і толькі днём. Вечарам хадзіць нельга было, а ў нядзелю выпраўляліся ў царкву. Думаю, не таму, што былі такія прыкладныя вернікі, а каб на людзей паглядзець і самім паказаць.

### Варажба на жаніхоў

Новы 1944 год я сустрэла ў Казельшчыне сярод родных. Там у мяне былі дзве стрыечныя сястры і два такія ж браты, нешмат маладзейшыя за мяне. Ды і ў самой вёсцы было поўна аднагодак.

Вось мы разам і варажылі. Было шмат смеху. Вясковыя хацелі паказаць мне, "гарадской", розныя хітрыкі, з дапамогай якіх можна было даведацца пра свой лёс: за каго выйдзеш замуж і ў якую "частку свету", гэта значыць, у які бок ад Казельшчыны.

> **Мне паказвала на поўдзень, таму ўсе рашылі, што выйду за нейкага валожынца.**

Я шмат дзе чытала і цяпер чытаю пра партызанаў і падпольшчыкаў, як расклейвалі ўлёткі і гэтак далей. Нягледзячы на лясістасць нашага наваколля і вялікую колькасць партызанаў (тая ж Налібоцкая пушча была поўная іх), да нас не даходзіла ніякіх звестак пра становішча на фронце. І сярод нас ніколі не было размоў, што недзе былі нейкія ўлёткі. Нашы родныя, што жылі ў вёсках, апавядалі, што партызаны там былі даволі частымі гасцямі – прыходзілі па харч, вопратку, абутак. Але нічога не расказвалі пра фронт.

### Як уступалі ў Саюз беларускай моладзі

Увесну 1944 года абедзве нашы школьныя групы сабралі ў актавай зале. Там знаходзіліся дырэктар, нехта з настаўнікаў і два маладыя незнаёмыя хлопцы. Дырэктар адрэкамендаваў іх, як прадстаўнікоў рэспубліканскай арганізацыі "Саюз беларускай моладзі". Іх прозвішчы і імёны не запомніла. Абодва былі трохі старэйшымі за нашых таварышаў.

Адзін з іх сказаў, што беларуская ўлада вырашыла аб'яднаць моладзь краіны ў Саюз беларускай моладзі, і ў першую чаргу навучэнцаў. Так што ён спадзяецца, што мы з'яўляемся патрыётамі нашай шматпакутнай Радзімы і ўступім у гэтую арганізацыю.

І пачалі нас запісваць, усіх запар, не пытаючыся пра нашы жаданні. За вайну мы прывыклі, што за нас думаюць і вырашаюць іншыя. І толькі адзін Мечыслаў Новак застаўся не запісаным, бо быў палякам.

Праз пару дзён мяне выклікалі ў кабінет дырэктара. Там былі і тыя хлопцы з СБМ. Абвясцілі, што мяне прызначылі адказнай за работу сярод дзяўчат. Я адразу быццам і заганарылася, але потым, разважыўшы, зразумела, што зусім не маю разумення, што павінна рабіць, і ўвогуле не маю кіраўнічых талентаў. Пайшла да дырэктара Сабалеўскага і сказала пра гэта. "А табе нічога і не трэба будзе рабіць. Твая справа маленькая. Ёсць большае начальства, няхай яно і думае".

Наколькі памятаю, ніякай выхаваўчай і патрыятычнай работы два нашы начальнікі не вялі. Сустракаліся яны больш з хлопцамі. Два ці тры разы было арганізавана нешта кшталтам вечарын, але днём і ў нядзелю. Спявалі песні, былі танцы. Я старалася пайсці дахаты раней, бо не ўмела танцаваць. А тады ж была магчымасць навучыцца.

Недзе ў канцы красавіка прыслалі нам і кіраўнічку СБМ. Яна вельмі актыўна ўзялася за работу. Па яе заяўцы для дзяўчат прыслалі форму – жакеты і спадніцы з даволі тоўстай бавоўнянай тканіны зеленкаватага колеру. Пашылі сабе і белачырвона-белыя нарукаўныя павязкі. А вось якая была форма ў хлопцаў, не памятаю.

### На курсах СБМ

1 мая была дэманстрацыя. На чале яе ішла наша моладзевая арганізацыя пад бел-чырвонабелым сцягам, а таксама батальён Беларускай краёвай абароны. Былі яшчэ на дэманстрацыі школьнікі сямігодкі і, напэўна, службоўцы нейкіх цывільных устаноў.

Не памятаю, што там яшчэ рабіла наша кіраўнічка. Бо была вясна, самы разгар палявых работ, і я была занятая дома.

Але наша кіраўнічка не драмала. Энергіі ёй было не пазычаць. Недзе ў другой палове мая чацвёра хлопцаў і трое дзяўчат былі накіраваныя на курсы СБМ. Не памятаю, куды паслалі хлопцаў, а нас накіравалі ў Менск.

У групе дзяўчат была я, мая сяброўка Кухарава і яшчэ адна з вёскі, здаецца, з-пад Пяршаяў. Вось у яе і аказаліся родзічы ў Менску, і пры гэтым вельмі важныя. Стрыечная сястра яе маці была жонкай тагачаснага прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага.

Ехалі мы ў Менск цягніком. Пайшлі спачатку да родзічаў нашай спадарожніцы, каб пакінуць рэчы. У кватэры была толькі служанка (таксама адна з пляменніц прэзідэнта). Пакінуўшы рэчы, пайшлі ў горад шукаць адрас, пазначаны ў камандзіроўцы.

Знайшлі. Гэта была адна са школ. Там ужо сабралася вельмі шмат дзяўчат. Частка іх танцавала, іншыя спявалі, а большасць сноўдалася без справы. Але нам талкова не растлумачылі, дзе будзем жыць, таму вырашылі вярнуцца начаваць да Астроўскіх, а прыйсці зноў у школу назаўтра.

### Сустрэча з Радаславам Астроўскім

Калі мы вярнуліся, жонка прэзідэнта ўжо была дома. Прыняла нас вельмі прыязна, адразу ж сказала, што мы павінны заначаваць у іх. "Хоць і цесна, але ж не адпушчу пляменніцу і яе сябровак, хто ведае куды. І мне ж таксама цікава даведацца, што новага ў нашай вёсцы, у родных".

Вечарам прыйшоў і прэзідэнт. Гэта быў чалавек крыху старэйшы за сярэдні век. Здаўся ён мне стомленым і не вельмі жыццярадасным.

Вячэра была даволі сціплая, хоць гаспадары і прымалі нас вельмі сардэчна. Пасля вячэры я з Кухаравай дапамагалі служанцы мыць посуд, а родзічы ў святліцы дзяліліся навінамі.

У кватэры былі тры або чатыры пакоі. У адным з іх нам і паслалі. І толькі мы леглі, яшчэ не заснулі, як завыла сірэна. "Хуценька апранайцеся і ў падвал. Гэта савецкія самалёты!" Мы апрануліся і паспяшаліся ў падвал. Я памятаю гэты дом, ён захаваўся.

Валянціна СЛАБОДЧЫКАВА (МАХНАЧ), Малдова.

Працяг будзе.

---

**КАЛЯНДАР**

**17 красавіка.** 125 гадоў з дня нараджэння (1880) Кастуся Гадыцкага-Цвіркі, педагога, грамадскага дзеяча. Нарадзіўся ў Мінску. У чэрвені 1918 член камісіі БНР па арганізацыі Беларускага ўніверсітэта. У 1920 годзе ад Інстытута народнай адукацыі абраны ў склад Мінскай камісіі па ўтварэнні БДУ. Выкладаў у БДУ. Забіты ў 1930-х гадах.

***

**18 красавіка.** 1952 год. За адну ноч з Заходняй Беларусі на ўсход СССР вывезлі 1683 сям'і, што былі абвінавачаныя ў "варожай дзейнасці супраць калгасаў".

***

**75 гадоў** з дня нараджэння (1940) Эдуарда Ханка, беларускага кампазітара, аўтара папулярных песень, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага артыста Беларусі.

***

**1838 год.** Нарадзіўся Уладзіслаў Дыбоўскі (маёнтак Адамарын Вілейскага павета, цяпер Маладзечанскі раён – 27 ліпеня 1910), расійскі, беларускі і польскі заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог і фалькларыст. Брат Бенядыкта Дыбоўскага.

***

**19 красавіка.** 1881 год. Нарадзіўся Усевалад Ігнатоўскі, гісторык, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук.

***

**20 красавіка.** 105 гадоў таму (1910) памёр Сяргей Палуян, публіцыст, празаік, літаратуразнавец, крытык. Падтрымліваў сяброўскія і творчыя сувязі з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Цішкам Гартным, Ядвігінам Ш і інш. Аўтар вершаў, п'ес, празаічных твораў, публіцыстычных артыкулаў, у т.л. артыкула "Аб нацыянальнай школе ў Беларусі", рэцэнзіі на кнігу "Другое чытанне для дзетак беларусаў" Я. Коласа. Не ўся творчая спадчына Палуяна захавалася, цяпер вядома яго апавяданне "Вёска", абразок "Хрыстос уваскрос!" (зварот да беларускага народа), 21 публіцыстычны артыкул, рэцэнзіі. Выйшаў зборнік твораў С. Палуяна "Лісты ў будучыню" (1986).

***

**1919 год.** Польскія войскі занялі Вільню.

***

**22 красавіка.** 1954 год. У Рызе (Латвія) памёр Сяргей Сахараў, культурны дзеяч, фалькларыст, этнограф, педагог.

***

**10 гадоў** таму памёр Барыс Рагуля (1920-2005), палітычны і вайсковы дзеяч, сябар ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, дзеяч беларускай эміграцыі ў Германіі, Бельгіі, Канадзе.

Марыя БЕРАСНЕВА.

ДАРОГА

# 7000 кіроўцаў аб'ядналіся, каб дапамагаць адзін аднаму

МАЛАДЗЕЧНА

**Вы загразлі ўсімі коламі пасярод ночы ў лесе? Не дацягнуўшы да бліжэйшай запраўкі, скончыўся бензін? Каму званіць, куды звяртацца ў такіх выпадках?**

Больш за сем тысяч кіроўцаў з Маладзечна адказ на гэта пытанне ведаюць ужо чатыры месяцы як.

А іменна столькі часу існуе самая вялікая суполка кіроўцаў у межах канала рацыі "Без тармазоў".

**14 красавіка ў суполцы было зарэгістравана 7744 чалавекі**

Арганізавалі канал "Без тармазоў" двое хлопцаў **Цімафей Ліс** і **Вячаслаў Строк.**

– Атрымалася ўсё спантанна, – кажа Вячаслаў. – Цімафею трэба было тэрмінова прайсці тэхагляд. І каб пазбегнуць сустрэчы з ДАІ, вырашылі стварыць рацыю.

**– Праца канала накіраваная на тое, каб дапамагаць удзельнікам пазбягаць сустрэчы з ДАІ?**

– Не зусім так. Мы зусім не апраўдваем і не заахвочваем парушэнні хуткасці ці кіраванне ў неналежным стане. Проста здараюцца такія сітуацыі, калі выпадкова, напрыклад, кіроўца забыўся дома медыцынскую даведку. Ці спяшаецца некуды і ў яго планы не ўваходзіць сустрэча і доўгая размова з супрацоўнікамі ДАІ. Тады, канешне, бывае зручна папярэдзіць адно аднаго, што там і там працуе экіпаж.

Акрамя папярэджванняў, дзе працуе экіпаж ДАІ, удзельнікі рацыі адсочваюць і паведамляюць, дзе закрыты пераезд. Калі ў горадзе здараецца аварыя, удзельнікі рацыі ведаюць пра гэта адны з першых.

– Нядаўні выпадак, калі відавочцы заўважылі, што па горадзе насіўся матацыкліст на заднім коле і зваліўся. А памятаеце аварыю на вуліцы Хмяльніцкага, калі міліцыя шукала відавочцаў? Дык вось удзельнікі суполкі адгукнуліся на гэта вельмі актыўна.



Фота Насці РОЎДЫ.

Аляксандр Скрундзь – адзін з актыўных удзельнікаў рацыі "Без тармазоў".

Карыстальнікі рацыі таксама могуць папрасіць у эфіры дапамогі, калі раптам нешта зробіцца з машынай: скончыцца бензін, праб'е кола, разрадзіцца акумулятар.

– Зімой амаль штодня чулі такія паведамленні, што нехта заглух па дарозе. Праз непрацяглы тэрмін да такога чалавека ўжо ехалі на дапамогу некалькі кіроўцаў, "давалі прыкурыць".

**Быў выпадак, калі на рацыю перадалі паведамленне, што машына загразла ў лесе. На гадзінніку каля трох ночы, а ў эфіры адгукнуліся пяць кіроўцаў, што гатовыя выехаць на дапамогу.**

– А вось калі знікла дзяўчына, многія з кіроўцаў, удзельнікаў "Без тармазоў", размясцілі ў сябе ў машыне лістоўкі, – дадае Цімафей.

Пры гэтым сваім жа сябрам рацыі мадэратары не даруюць, калі тыя парушаюць правілы.

– Перад рэгістрацыяй на канале кожны абавязаны праслухаць правілы суполкі. У іх мы пазначылі, што ў эфіры забароненая ненарматыўная лексіка і абразы іншых удзельнікаў. Тэмы і адносіны, якія не адпавядаюць тэме канала. Таксама мы супраць няўзгодненай рэкламы, а таксама нельга падпісвацца нецэнзурным імем або паставіць нейкі непрымальны малюнак на аватарку. Усіх, хто парушае, блакуем.

**– А дзяўчат у суполцы шмат? Ім даруеце парушэнні?**

– Да дзяўчат добра ставімся. Мала іх у суполцы, таму і шануем. І настрой яны падымаюць, калі ў эфіры з'яўляюцца. Але правілы для ўсіх аднолькавыя.

Сярод дзяўчат бываюць і тыповыя бландзінкі. Як што ляпнуць, – смяецца Цімафей, – тады мы ім гук выключаем, а іх яшчэ хвілін 20 астатнія абмяркоўваюць, а самі дзяўчаты не могуць выйсці ў эфір.

**– А да жартаў у эфіры як ставіцеся?**

– Калі жарты пра тое, што, напрыклад, здарылася аварыя, то такія жарты мы не разумеем, і такіх "жартаўнікоў" блакуем. А калі гэта жарт добры, то мы рады, што ў нашых удзельнікаў ёсць пачуццё гумару. Самыя ўдалыя жарты мы нават выкладаем у суполцы ў сацыяльнай сетцы.

### ТОП-3 жартаў суполкі

1. – Хлопцы, а хто ведае, чаму ў горадзе так накурана?
2. – Як чуваць?
   – Вось так: бзз як… бззз…чуваць …. бзззз..
3. – Горад чысты?
   – Чысты, як шкарпэткі пасля мыцця.

– А яшчэ мы ладзім сустрэчы паміж удзельнікамі суполкі, – дадае Цімафей. – Збіраемся ў кавярні і за кубкам кавы абмяркоўваем і дарогі, і машыны, і ўсё на свеце. Нейкае невераготнае пачуццё, калі чуеш толькі голас чалавека ў эфіры, а потым бачыш яго. Клёва!



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8044-566-26-99

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаму вы карыстаецеся рацыяй для аўтамабілістаў?



**Андрэй Рацъ, майстар:**

– Я карыстаюся інтэрнэтрацыяй для аўтамабілістаў, таму што гэта вельмі зручна. Асноўны плюс – атрыманне інфармацыі аб заторах, аварыях. Можна на гэтым канале звярнуцца з просьбай аб дапамозе. Людзі, якія карыстаюцца гэтым каналам, заўсёды дапамогуць. Я два разы прасіў дапамагчы тросам. Дапамаглі. Выдатная штука.



**Дзмітры Буракоўскі, інжынер-праграміст:**

– Я кірую аўтамабілем ўжо каля 10 гадоў. Заўсёды праходжу і тэхагляд, і страхоўку набываю, але нервовасць, калі мяне спыняюць інспектары ДАІ, усё роўна прысутнічае. Таму лепш ведаць, дзе яны, каб аб'ехаць бокам. Адзіны мінус суполкі – могуць ліхачыць п'яныя, і, ведаючы, дзе стаяць інспектары ДАІ, не папасціся.



**Вера Ліса, культуролаг:**

– Я сама кіроўца і сама вяду канал рацыі "Першы рэгіён". Таму магу сказаць, што такія рацыі неабходныя. Акрамя абмяркоўвання сітуацыі на дарозе, можна і правілы дарожнага руху абмеркаваць. З ДАІ мы сябруем. Адна справа ехаць без страхоўкі, а іншая – сесці п'янаму за руль. У першым выпадку рацыя дапаможа кіроўцу, а вось у другім – ДАІ.



**Валерыя Шаўчэнка, педагог:**

– Дзякуючы групе я знайшла шмат сяброў. Мы сябруем, збіраемся ў пэўных месцах, дзелімся вадзіцельскім досведам, рознымі жыццёвымі гісторыямі. З дакументамі на машыну ў мяне ўсё ў парадку, таму інфармацыя, дзе стаяць супрацоўнікі ДАІ, мяне не палохае.



**Павел Петрусевіч, байкер:**

– На самой справе – гэта зручна і практычна, можна даведацца карысную інфармацыю пра той ці іншы ўчастак дарогі. Аўтамабіляў нямала, і ў гадзіны пік з'яўляюцца заторы, закрытыя пераезды, цяжкасці праезду ў месцах ДТЗ. Дзякуючы паведамленням па рацыі, усё гэта можна абмінуць. Ды што казаць, калі ў некаторых няма тэхагляду, рацыя ратуе!



**Руслан Мандрык, вадзіцель-міжнароднік:**

– Шмат карыснай інфармацыі. Яна даходзіць хутка, зручна карыстацца. Можна атрымаць інфармацыю, як справы на дарозе не толькі ў горадзе, але і на ўсіх пад'ездах да горада. Таксама цікавяць пытанні нАконт таго, дзе больш танныя аўтамыйкі ці аўтамагазіны.



**Сяргей Пуня, інжынер-электрык:**

– Я слухаю рацыю ў абедзенны перапынак або ўвечары, каб быць у курсе, што адбываецца ў горадзе. А сам рацыяй карыстаюся рэдка.

**Наталля ТУР.**

# Абудзіць душы продкаў, папрасіць у іх дапамогі

## Як нашы продкі адзначалі Радаўніцу, які сакральны сэнс укладалі ў свята

ВІЛЕЙКА. АШМЯНЫ

**Сёлета Радаўніца прыпадае на 21 красавіка. Гэта час, калі людзі ўзгадваюць пра сваіх продкаў, прыходзяць да іх на могілкі.**

Навукоўцы мяркуюць, што назва свята паходзіць ад слова "род", або ад славянскай міфічнай багіні памяці **Рады.** Аднак існуюць такія назвы, як Радуніца, Радуніцкія Дзяды, Снеданне па радзіцелях, Вялікадне мёртвых.

У некаторых мясцінах на могілкі ішлі на Вялікдзень, там і разгаўляліся разам з продкамі.

– Існавала прыказка: на Радуніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць, – расказвае выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка **Дзмітры Дрозд**. – Да абеду людзі маглі працаваць, пасля абеду ішлі на могілкі, паміналі продкаў. З сабой бралі велікодныя стравы: яйка, куліч. У цэнтральнай Беларусі яйкі часам закопвалі ў магільны грудок. Часам раструшчвалі, каб склявалі птушкі. У некаторых рэгіёнах, каб ажывіць душу памерлага, качалі па магільным грудочку крыжападобна пафарбаванае яйка.



Нашы продкі лічылі, што душа памерлага становіцца птушкай. Таму на могілках пакідалі кавалак велікоднай булкі, яйкі, якія раструшчвалі, каб склявалі птушкі.

Перш чым прыгубіць чарку, тройчы з яе адлівалі гарэлку, успаміналі пра памерлых. Але лічылася, што лепшай вільгаццю, здольнай ажывіць памерлых родзічаў, будуць слёзы і галашэнні па іх.

### Памерлым прыносілі "абноўкі"

Раней да Вялікадня ткалі, пралі, з гэтага шылі ці вязалі новае адзенне і апраналі яго на свята. Таму і памерлым на магілкі прыносілі "абноўкі". Ручнікі павязвалі на крыжы магілак, дзе былі пахаваныя мужчыны. Фартушкі альбо стужкі – на крыжы пахаваных жанчын.

– І цяпер на крыжах можна ўбачыць стужкі, – адзначае Дзмітры Дрозд. – Але ў большасці іх замянілі штучнымі кветкамі.

> **Тыя, хто ходзіць на могілкі ў першы дзень Вялікадня, пазіраюць, ці пераліваецца сонца. Калі так, гэта добрая прыкмета на ўраджай, дабрабыт і шчасце.**

У радзімічаў на могілках рабілі з вярбы свісткі і раздавалі дзецям. Яны ўзлазілі на дрэвы і свісталі. Гукі павінны былі абудзіць душы продкаў.

– Нашы продкі верылі ў тое, што пасля смерці душа чалавека становіцца птушкай, – распавядае выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры. – І ў галашэннях, гучных рыданнях з прычытаннямі на памінках вобраз салавейкі, зязюлькі пастаянна прысутнічае.

> **Самымі першымі стараліся прыйсці на могілкі сваякі нядаўна пахаваных нябожчыкаў. Калі няма памерлых з часу мінулага Вялікадня, ідуць перш да магілы старэйшага родзіча. Раней верылі ў тое, што першы, хто прыйшоў на могілкі, пачуе ад сваіх родзічаў параду, дзе знайсці скарб.**

– Найбольш галасілі над тымі магілкамі, дзе былі пахаваныя дзеці, – расказвае Дзмітры Дрозд. – Рытуалы на Радаўніцу скіраваныя і на тое, каб улагодзіць душы продкаў, папрасіць у іх дапамогі перад пачаткам новага сельскагаспадарчага года.

### Старэйшая жанчына абуджала продкаў

У вёсцы Язні на Вілейшчыне існаваў звычай, старэйшая жанчына з тых, хто прыйшоў на могілкі, клікала душы памерлых на сумесную трапезу.

Як правіла, той, хто кліча, пералічвае ўсіх па сваяцтву: "Дзядочкі, бабачкі, татулькі, матулькі, сястрычкі, братачкі, цётачкі, дзядзечкі, прадзедкі і прабабачкі старэнькія, дзетачкі маленькія, усе хадзіце к нам. Ужо вашы сталы пазасціланыя, госцікі сазваныя, кубачкі паналіваныя. Хадзіце, ляціце к нам!"

У канцы трапезы таксама старэйшы з прысутных звяртаецца да памерлых: "Вы нам ва ўсім спрыяйце і нас да сябе доўга дажыдайце!"

### На Вялікдзень на могілках больш людзей, чым на Радаўніцу

**Лідзія Адамовіч** з вёскі Заброддзе на Вілейшчыне расказвае, што ў іх вёсцы на могілкі ездзілі ў першы дзень на Вялікдзень і на Радаўніцу.

– На Вялікдзень звычайна прыязджае многа людзей, нават у тыя хаты, дзе нікога ўжо няма. Перад сняданкам едуць на могілкі, – расказвае жанчына. – З сабой вязуць яйкі, кладуць кветкі, узгадваюць памерлых сваякоў.

На Радаўніцу ў Забароддзі і навакольных вёсках да абеду людзі працуюць, а пасля абеду едуць на могілкі.

**Валеры Пячкоўскі** з Ашмяншчыны расказвае:

– Ашмяншчына – край каталіцкі, таму 1 лістапада, свята Усіх святых, больш маштабнае.

Але і на Радаўніцу людзі прыбіраюць могілкі, ідуць у царкву, памінаюць продкаў: хто чаркай, хто малітвай.

**Галіна СІНІЦА.**

Даведка "РГ".
Разгавецца –
1. у веруючых: пасля посту паесці скаромнага.
2. з'есці ці выпіць чаго-небудзь смачнага і многа пасля перапынку.

ХАКЕЙ

# Хто ўваходзіць у склад каманды “Дынама-Маладзечна”? Верабей, конь і два дрэвы!

МАЛАДЗЕЧНА

**У пятніцу, 10 красавіка, хакеісты з “Дынама-Маладзечна” сустрэліся з дзецьмі – выхаванцамі інтэрната № 2 для дзяцей з парушэннямі зроку.**



Фота Наталлі ТУР.

Пра настрой, які панаваў у той дзень у школе-інтэрнаце, можна меркаваць па ўсмешках хакеістаў Арцёма Шагава і Дзмітрыя Знахарэнкі.

Дарэчы, гэта не першая сустрэча дынамаўцаў з дзецьмі.

– Мы з радасцю прыходзім у інтэрнат, таму што тут мы адпачываем, калі кантактуем з дзецьмі, – прызнаецца хакеіст **Яўген Лявонаў.**

У гэты дзень адпачыць гасцям дзеці не далі, таму што падрыхтавалі для іх сапраўднае выпрабаванне – гульню “Інтэлектуальны хакей”.

Паўжартаўлівая гульня аказалася сапраўдным паядынкам паміж хакеістамі і дзецьмі. Але хто быў больш дзёрзкім – пытанне адкрытае.

Умовай першага конкурсу было прыдумаць як мага болей сінонімаў да дзеяслова смяяцца. Дзеці прапаноўвалі словы ўсміхацца, весяліцца, у хакеістаў жа ўсё было па-даросламу – лахаць, ухахатвацца, ржаць, угараць.

У другім конкурсе трэба было прачытаць скорагаворкі, затым назваць як мага больш відаў спорту.

У амаль роўнай барацьбе каманда хакеістаў усё ж апярэдзіла каманду дзяцей і выйграла з лікам 15:14.

На пытанне да гульцоў “Дынама-Маладзечна”, чаму не паддаліся дзецям, хлопцы адказалі, што ўсяму віной спартыўны азарт.

А **Андрэй Філічкін** перапытаўся:

– Хто перамог? Мы? Ды не – гэта журы памылілася. Перамаглі дзеці.

Паміж конкурсамі выхаванцы школы-інтэрната падрыхтавалі музычныя падарункі – **Даніла Савеня, Надзея Сіліч і Настасся Ключонак** спявалі і разам, і паасобку.

Разынкай мерапрыемства была падрыхтаваная сцэнка, якая называлася “Дэтэктыўная гісторыя”. Ролю дзеючых персанажаў прымералі на сябе як дзеці, так і хакеісты. Наўрад ці на хакейных матчах і трэніроўках **Мікіта Волес** думаў, што будзе выконваць ролю каня, а **Павел Шэгала** – вераб'я. Выдатна справіліся са сваёй роляй і **Артур Абмётка з Аляксеем Аўтаевым**. Яны былі дрэвамі.

Пасля порцыі смеху – рэлакс і душэўная размова за кубкам гарбаты з салодкімі падарункамі ад ХК “Дынама-Маладзечна”.

І зноў нечаканасць ад хакеістаў. Хто б мог падумаць, што суровыя хакеісты будуць змагацца за мікрафон, каб праспяваць разам з Данілам Савенем песню “Шарманка”.

На развітанне – абяцанне ад хакеістаў хутка зноў завітаць у госці. І, як заўсёды, напамінак пра тое, што дзеці і выкладчыкі самыя жаданыя госці на хакейных матчах каманды.

**Наталля ТУР.**

**Больш фота на сайце**

Rh.by

ФУТЗАЛ

## Каб лепш разбірацца ў правілах футзала

МАЛАДЗЕЧНА

**Нас чакаюць дзве сустрэчы ў рамках XI чэмпіянату свету па футзале, якія пройдуць на гульнявой пляцоўцы спартыўна-відовішчнага комплексу.**

У суботу,18 красавіка, будуць змагацца каманды Марока і Бельгіі, а ў нядзелю, 19 красавіка, адбудзецца процістаянне Бразіліі з Аўстраліяй.

Некалькі слоў пра дасягненні нашых гасцей. Бразільцы – трохразовыя чэмпіёны (1988 год, 2003 год, 2007 год), яны бралі ўдзел у дзесяці розыгрышах. Бельгійцы – чвэрцьфіналісты 2007 года, бралі ўдзел пяць разоў. Аўстралія (шэсць удзелаў) і Марока (чатыры) заўсёды спыняліся на групавых этапах.

Футзала мала адрозніваецца ад звыклага для нас міні-футбола. Памеры пляцоўкі прыблізна 40 метраў на 20 метраў, памеры варотаў 3 метры на 2 метры. У складзе адначасова варатар і чатыры палявыя гульцы, можна рабіць многа заменаў. Гульня складаецца з двух таймаў па дваццаць хвілін “чыстага” часу.

І ўсё ж пэўная розніца ў правілах існуе.

Па-першае, футзала з'яўляецца кантактнай гульнёй з падкатамі, блакаваннем гульца і іншымі тактычнымі прыёмамі, тады як у міні-футболе гульня пабудаваная на пасах, без цеснай барацьбы.

Па-другое, адрозніваюцца правілы падачы вуглавога і аўта. У міні-футболе гэта робяць нагамі, а ў футзале гэта робяць рукамі. Калі мяч прайшоў у вароты пасля кідання рукамі, то гол не залічваецца.

Па-трэцяе, мяч у футзале крыху меншы па памеры, але пры гэтым крыху цяжэйшы. Пры падзенні на падлогу з вышыні двух метраў ён павінны адскокваць не больш, чым на паўметра.

Пенальці прабіваецца з шасці метраў, штрафны ўдар – з дзевяці метраў, просты фол прабіваецца з месца парушэння правілаў і абаронцы могуць пабудаваць сценку на адлегласці ў дзевяць метраў.

Выдалены футбаліст пакідае гульню да заканчэння матча, але на пляцоўцы яго адразу можна замяніць, каманда ў меншасці не застаецца.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

НАВІНЫ

### Футбольным фрыстайлам і чырлідынгам адкрыюць чэмпіянат у Смаргоні

СМАРГОНЬ

У Мінску 7 красавіка адбылося лёсаванне чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Праходзіць ён будзе ад 18 красавіка да 15 лістапада.

Футбольны клуб “Смаргонь” стартуе дома матчам з ФК “Кобрын”. Гульня пройдзе 19 красавіка.

У 15 гадзін адбудзецца ўрачыстае адкрыццё чэмпіянату. Пройдзе парад выхаванцаў смаргонскай ДЮСШ па футболе, выступяць гурты чырлідынгу школ горада і каманда па футбольным фрыстайле “Lifestyle”, расказаў прэс-аташэ клуба **Уладзімір Амбрасевіч**.

Матч пачнецца ў 16 гадзін.

### Сышлі ад паражэння за 10 секунд да фінальнага свістка

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе ў вышэйшай лізе 11 красавіка смаргонская “Вілія” дома сустракалася з “Энергіяй” з Зэльвы.

Смаргонцы валодалі гульнявой перавагай, а сапернік выдатна гуляў на контратаках.

Канцоўка матча выдалася захапляльнай. Гаспадары прайгравалі 6:8, але здолелі адыграцца. Апошні гол забілі дзесьці за 10 секунд да канца матча. У выніку нічыя – 8:8.

На тур раней “Вілія” атрымала перамогу без гульні. Каманда з Ліды не прыехала на матч, і ёй залічылі тэхнічнае паражэнне 0:5.

“Вілія” па-ранейшаму займае пятае месца ў турнірнай табліцы. Гуляе ў вышэйшай лізе восем каманд.

### Віляйчанкі сталі трэцімі ў вобласці па баскетболе

ВІЛЕЙКА

Ад 3 да 5 красавіка ў Барысаве праходзілі паўфінальныя і фінальныя спаборніцтвы па баскетболе сярод дзяўчат. Адбываліся яны ў межах 27 абласной спартакіяды вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі Мінскай вобласці.

У паўфінал спаборніцтваў выйшлі 10 камандаў, паведаміла дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч.**

Каманда Вілейскага раёна паспяхова пераадолела паўфінальны этап і выйшла ў фінал. У фінале заняла трэцяе месца.

Самымі выніковымі гульцамі сталі **Кацярына Радзевіч** і **Лізавета Макарава.**

Апроч іх у зборную Вілейскага раёна ўваходзілі **Марыя Чаравака, Ірына Парфіновіч, Дар'я Нікіткова, Ганна Місюль, Ксенія Броўка, Таццяна Пастарнак**.

Трэнер каманды – настаўніца фізічнай культуры сярэдняй школы №3 Вілейкі **Таццяна ЖУК.**

### Вілейскі каратыст заваяваў бронзу на рэспубліцы

ВІЛЕЙКА

**Яўген Канапелька** з Вілейкі стаў бронзавым прызёрам адкрытага чэмпіянату Беларусі па каратэ. Адбыўся ён 3-4 красавіка ў Мінску.

Змагаўся Яўген у ваговай катэгорыі да 75 кілаграмаў. У індывідуальным кумітэ сярод мужчын заваяваў бронзавы медаль.

– Чэмпіянат склаўся вельмі добра для мяне, – падзяліўся Яўген. – Шмат выдатных спартсменаў удзельнічала. Простых сапернікаў не было, тут сабраліся лепшыя. Было прыемна змагацца імі, а яшчэ больш прыемна – перамагаць. Не чакаў такога выніку і вельмі задаволены.

### “Смаргонь” прапусціла чатыры галы ад “Зоркі-БДУ”

СМАРГОНЬ

У чарговым таварыскім матчы “Смаргонь” 4 красавіка гуляла ў сталіцы з ФК “Зорка-БДУ”. Смаргонцы прайгралі 0:4. У кожным з таймаў прапусцілі па два галы.

### Каманды з рэгёна гулялі ў валейбол

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ, СМАРГОНЬ

У Вілейцы 4 красавіка прайшоў міжраённы турнір па валейболе. Удзельнічалі шэсць камандаў. У тым ліку, чатыры з нашага рэгёна: са Смаргоні, Мядзела, Вілейкі і Маладзечна.

У мядзельскай камандзе было шмат юных гульцоў, і дастойна выступіць ёй не ўдалося, распавёў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

Перамагла ж каманда з Глыбокага, на другім месцы – віляйчане, на трэцім – маладзечанцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

**У панядзелак першая сёлетняя навальніца ў Маладзечне застала знянацку. Людзі хаваліся пад парасонамі, але іх здзімала ветрам.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**ЦЫРК, ЦЫРК, ЦЫРК**!" (цыркавая клаўнада для дзяцей і дарослых у адной дзеі), *Мікіта Благаў*
22 красавіка, серада, – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль, прысвячаецца 70-годдзю савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне)
17 красавіка, пятніца, – у 19:00

"**Маленькі свет...**" (жорсткая меладрама), Алена Папова
21 красавіка, аўторак, у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
22 красавіка, серада, – у 19:00

"**Бывай, канферансье!**" (спектакль-канцэрт), *Рыгор Горын*
24 красавіка, пятніца, – 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**
*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by
УНП 600066659

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | 4 | | 6 | | 3 | |
| | | 6 | | 9 | | 4 | | |
| | | 7 | | 5 | | | | 1 |
| | | | | | | | 9 | 4 |
| | | 2 | | 7 | | 5 | | |
| 8 | 9 | | | | | | | |
| 7 | | | | 6 | | 2 | | |
| | | 9 | | 4 | | 1 | | |
| | 1 | | 7 | | 8 | 9 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі "**Чарадзей раўнавагі. Таямніца Сухаравай вежы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
19 красавіка – у 12:30
20 красавіка – у 15:00 (30 000 рублёў)

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18, 20 красавіка – у 13:00
19, 21 красавіка – у 14:30 (25 000 рублёў)

Анімацыя, прыгоды "**Звярыны атрад**" (3D, Італія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18 красавіка – у 15:00
21 красавіка – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Прывід**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
21 красавіка – у 16:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (Расія, Украіна, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 красавіка – у 17:00
21 красавіка – у 18:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Жанчыны супраць мужчын**" (Расія, 2015, з 16 год)
20, 22 красавіка – у 22:00 (50 000 рублёў)

Анімацыя, прыгоды "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, 2015)
17 красавіка – у 22:00 (60 000 рублёў)
18, 20, 22 красавіка – у 19:20 (55 000 рублёў)
19, 21 красавіка – у 21:00
23 красавіка – у 17:00

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
17 красавіка – у 19:30 (3 000 рублёў)

Баявік, трылер "**Запрашаем у рай**" (ЗША, 2014, з 16 год)
17 красавіка – у 19:30 (45 000 рублёў)
18 красавіка – у 22:00 (50 000 рублёў)
19 красавіка – у 19:00 (45 000 рублёў)
22 красавіка – у 17:20 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Камедыя, фантастыка "**Поўнае пераўтварэнне**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 красавіка – у 17:30
19 красавіка – у 17:00 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Баявік, фэнтэзі "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
23 красавіка – у 19:40 (55 000 рублёў)
23 красавіка – у 22:40 (60 000 рублёў)

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
17 красавіка – у 17:00
19 красавіка – у 15:00
18, 20 красавіка – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультфільм "**Монстры на востраве**" (Канада, Японія, 2011, без узроставых абмежаванняў)
18, 19 красавіка – у 16:30
21 красавіка – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Меладрама "**Яшчэ адзін год**" (Расія, 2013, з 16 год)
17 красавіка – у 21:00
18 красавіка – у 18:30
20 красавіка – у 21:30
21 красавіка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**", (Беларусь, 2015, з 16 год)
17, 19, 22 красавіка – у 18:30
18, 23 красавіка – у 21:00
20 красавіка – у 19:00
21 красавіка – у 21:30 (3 000 рублёў)

Баявік, трылер "**Джон Уік**" (ЗША, Канада, 2014, з 16 год)
17, 19, 22 красавіка – у 18:30
18, 23 красавіка – у 21:00
20 красавіка – у 19:00
21 красавіка – у 21:30 (35 000 рублёў)

Прэм'ера! Камедыя, меладрама "**Лета. Аднакласнікі. Каханне**" (ЗША, 2011, з 16 год)
19 красавіка – у 21:30
20 красавіка – у 16:30
21 красавіка – у 17:00
22 красавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама "**Салодкае развітанне Веры**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
23 красавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, з 16 год)
17, 20 красавіка – у 17:30
18, 19 красавіка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік, трылер "**Рэйд 2**" (Інданезія, з 18 год)
17, 20, 23 красавіка – у 19:30
18, 19 красавіка – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Тарзан**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
18 красавіка – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Тор: Легенда вікінгаў**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
19 красавіка – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Меладрама "**Салодкае развітанне Веры**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23 красавіка – у 17:30

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Баявік, трылер "**Сардэчна запрашаем у рай**" (2D, ЗША, з 16 год)
17, 20 красавіка – у 18:00
19 красавіка – у 16:30
Цана білета: 48 000 рублёў

Баявік, трылер "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, з 16 год)
17, 20 красавіка – у 20:30
18 красавіка – у 20:00
19 красавіка – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
18, 19 красавіка – у 12:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Фэнтэзі "**12 месяцаў: Новая казка**" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
18 красавіка – у 14:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Камедыя "**Энні**" (2D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
18 красавіка – у 16:00
19 красавіка – у 14:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя "**Поўнае пераўтварэнне**" (2D, Расія, з 16 год)
18 красавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (2D, Расія, Украіна, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 красавіка – у 19:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, з 16 год)
23 красавіка – у 18:00, 21:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Тры парсючкі**" (музычная казка, бел.), *І.Сідарук*
19 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**
УНП 600136804

ГАРАСКОП
(17-23 КРАСАВІКА)

**Авен.** Каб вам было ўтульна і цёпла, дадайце святла ў інтэр'ер кватэры, дома. І ўвогуле абнавіце дызайн жылля.

**Цялец.** Цудоўны час для ўзнаўлення гармоніі ў адносінах з блізкімі. Схадзіце куды-небудзь разам, напрыклад, у кіно, на выставу, правядзіце вечар разам...

**Блізняты.** Калі з кім у жыцці прыйдзецца расстацца, то не шкадуйце, замест старых адносін узнікнуць новыя, і яны атрымаюць другое дыханне.

**Рак.** Заняткі спортам пастаянна павінны стаць часткай вашага ладу жыцця. Гэта зробіць вас больш моцнымі фізічна, маральна і эмацыйна. Таксама палепшыць здароўе і знешні выгляд.

**Леў.** Узрост – гэта лічба. Калі вам 20, вы думаеце, што 50 – гэта кашмар. Але калі вам 50, вы адчуваеце, што вам 30. Наш узрост не павінны вызначаць нашых адносін да жыцця. Не давайце лічбам мяняць вас.

**Дзева.** Раўнамерна чаргуйце працу і адпачынак. Прыслухоўвайцеся да сябе, паспрабуйце пазбягаць такіх сітуацый, якія здаюцца вам сумніўнымі.

**Шалі.** Вас стрымлівае страх. А гэта ілюзія. Большасць таго, чаго мы баімся, ніколі не здараецца. Але нават калі і здараецца, то часта аказваецца не такім дрэнным, як мы думалі.

**Скарпіён.** Цяпер вам трэба разабрацца са старымі рэчамі і пачуццямі і выкінуць хлам не толькі з дома, але і з галавы.

**Стралец.** Вам нябёсы спрыяюць. Бярыцеся за сур'ёзныя справы, перыяд знакавы для вас. Самі па сабе справы не робяцца, але і без выпадковага збегу акалічнасцяў яны рэдка бываюць паспяховымі.

**Казярог.** Не займайцеся самаедствам і не злуйцеся, калі штосьці не атрымліваецца. Добра думайце пра сябе, і вы даб'яцеся вялікага поспеху.

**Вадалей.** Забудзьце пра злосць. Задавальненне ад яе праходзіць праз некалькі хвілін. А вось наступствы цягнуцца доўга. Слухайце сябе і, калі прыходзіць злосць, рабіце крок у супрацьлеглы бок.

**Рыбы.** Часцей успамінайце пра дабрыню. Невялікая яе порцыя можа тварыць цуды з людзьмі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by



## ● НАДВОР'Е

### 18 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +10 | | +5 / +8 | | +3 / +7 | | +3 / +8 | |
| | 734 | ↗ 4 | 735 | ← 4 | 732 | ↗ 6 | 737 | → 4 |
| Вільня | +3 / +9 | | +3 / +8 | | +3 / +4 | | +2 / +9 | |
| | 742 | → 4 | 745 | ↘ 6 | 740 | → 7 | 747 | ↘ 4 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.03
Захад 20.20
Даўжыня дня 14.17

Усход 6.04
Захад 20.00
Маладзік




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

- Мінімальная тэмпература –5,3 °С у 1981 годзе
- Максімальная тэмпература +21,1 °С у 1959 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 18,3 мм у 2005 годзе

Назіранні 59 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## ● ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

У роце чалавека больш бактэрый, чым людзей на Зямлі.

***

Раніцай, пасля сну, чалавек нашмат вышэйшы, чым днём і вечарам. Усё таму, што ў час сну пазваночнік расцягваецца і падаўжаецца, а пры хадзе – сціскаецца.

***

Самая моцная мышца ў арганізме чалавека – язык.

***

На працягу дня чалавек робіць каля 23 тысяч удыхаў і выдыхаў.

***

У сярэднім, кожны з нас засынае за сем хвілін.

***

За дзень кроў чалавека праходзіць дыстанцыю больш чым у 19 кіламетраў.

***

Уся скура на цела дарослага сярэднестатыстычнага чалавека важыць прыблізна тры кілаграмы.

***

25 мільёнаў разоў згінаецца кожны палец на руцэ чалавека на працягу жыцця.

***

Зубная эмаль па цвёрдасці блізкая да кварцу.

***

За суткі цела чалавека можа выпрацоўваць столькі цеплыні, колькі б хапіла для таго, каб закіпела 30 літраў халоднай вады.

***

Мозг нашмат больш актыўны ноччу, чым днём.

**Паводле vsefacty.com.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што такое хуткія знаёмствы і як гэта працуе? Чаму арганізатары хуткіх знаёмстваў прапануюць знаёміцца не анлайн, а ўжывую. Адказы на гэтыя пытанні – у наступным нумары "РГ".**



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 16 (1042) 17.04.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 505. Падпісана ў друк у 9.00 16.04.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.